Цана асобнага нумару 20.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **160.000** м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 3. Вільня, Нядзеля, 4-га лістапада 1923 г. Год I.

## Буджэт Польшчы на 1924 год.

Польскі ўрад падаў у Сойм праект дзяржаўнага буджэту на 1924 год.

У соймавай дыскусіі буджэт будзе разгледжаны ўсебакова і падробна. Дык мы і не бярэмся тут за такі поўны разгляд і ацэнку яго, а хочам адзначыць толькі некаторыя рысы яго, найбольш характэрныя і для нас найбольш цікавыя.

Буджэт уложаны *без дэфіцыту* і нават *з перавышкай даходаў над выдаткамі*. Ведама, мы йшчэ нічога ня можам прарочыць, як міністэрскія мяркаваньні зьдзейсьняцца *на дзеле*. Але і ў самым праекце ёсьць адна рыса, якая выклікае паважнае недаўменьне: гэта—*перакладаньне часьці дзяржаўных выдаткаў на самаўрады* і зьмяншаньне гэтак на адпаведную суму выдатковых пазыцыяў у буджэце. Так, прыкладам, згодна з заявай у Сойме міністра фінансаў, Кухарскага, выдаткі на асьвету паказаны ў буджэце ў суме 105.801.318 злотых—на 49.804.691 злотых менш, чым павінна быць.

Мы заўсёды пільна чыталі карэспандэнцыі з паветаў нашае краіны, друкаваныя ў эндэцкім „Dzien. Wil.“, і зварачалі ўвагу на няўстанныя жальбы на катастрафальны стан павятовых самаўрадаў („sejmików“), якія ўсьцяж дамагаюцца *дапамогі ад ураду*. Чыталі мы ня раз і аб тым, што вялікія паны абшарнікі ня хочуць плаціць падаткаў на самаўрады і... ня плацяць іх! Яшчэ горш выглядаюць фінансы нашых мест, прыкл. Вільні, якая без урадавых дапамог ня можа жыць. Мо‘ у польскіх паветах і местах справа гэтая стаіць лепш, чым у нас „на Крэсах“,—але мы аб гэтым вельмі сумляваемся: фінансавыя клапоты—бадай, агульная хвароба самаўрадаў. Вось-жа, першае, што пры чытаньні праекту буджэту прыйшло нам на думку, гэта *недаверые да здольнасьці самаўрадаў аплаціць тыя выдаткі, якія ўрад на іх перакладае з свайго буджэту*. А няхай толькі самаўрады, якія маюць на сваей галаве нялічаныя справы гаспадарчага характару, ня здолеюць зьдзейсьніць спадзяваньняў ураду адносна *да аднае толькі прасьветы*, на якую яны павінны будуць даць гэныя 49.804.691 злотых,—вось, і тая „*перавышка*“ дзяржаўных даходаў над выдаткамі, якую ўрад абліча на суму 23.000.000 злотых, абернецца ў дэфіцыт...

Перанёсшы вялікую частку дзяржаўных выдаткаў на самаўрады, значыць, узлажыўшы іх на той-жа народ у ўкрытай форме, пан міністар фінансаў кажа, што агульны падатковы цяжар будзе зусім „невялікі“: „даволі будзе, каб кожын грамадзянін гаспадарства плаціў у месяц няпоўныя 2 злоты“,—заявіў п. Кухарскі.

Але гэныя нявінныя „2 злоты“, лічучы злоты роўным залатому франку, паводле курсу з 31 кастрычніка, прадстаўляюць 614.000 польскіх марак; калі-ж у сям‘і „грамадзяніна“ ёсьць, сярэднім лікам, пяць душ, дык месячны падатак на сям‘ю будзе роўны *тром мілёнам польскіх марак*, і то толькі тады, калі цэннасьць іх у будучыне не паменшыцца. Гэта ўжо даволі многа...

Ня будзем затрымлівацца сяньня на выдатках паасобных міністэрстваў, ў тым ліку на вялізарных коштах *утрыманьня паліцыі* „на *Крэсах*“. Адзначым толькі выдаткі новаўтворанага *міністэрства зямельных рэформ*: яны маюць на ўвазе якраз наш край, т.-зв. „Усходнія Крэсы“.

Агульная сума выдаткаў гэтага міністэрства, якому даручана правядзеньне вялізарнае вагі рэформы, аблічана на 15.412.678 злотых, а ў тым ліку роўна *9.000.000 злотых (каля 60 проц.) на падмогу для „асаднікаў“ на Усходзе*. Дый справа ня ў тым, што на „асаднікаў“ будзе вытрачана такая вялізарная сума, а ў тым, што пан міністар фінансаў мімаходам і мо‘ неўспадзеўкі для сябя самога выкрыў *запраўдны характар міністэрства зямельных рэформ:* раз 60 проц. свайго буджэту гэтае міністэрства празначае на „асадніцтва“ на Усходзе, дык ясна, што з зямельнай рэформай, ухваленай Устаноўчым Соймам Польшчы, яно мае зусім мала супольнага, запраўды-ж зьяўляецца копіяй прускае Калянізацыйнае Камісіі і *мае за заданьне засяляць польскімі каляністамі Беларускія і Украінскія землі*.

Вось, што, паміж іншым, пры самым зьверхнім аглядзе буджэту, гавораць нам зьмешчаныя ў ім цыфры, і што выясніў у сваей прамове ў Сойме 30 кастрычніка пан міністар Кухарскі. Спадзяемся, што нашы паслы не пяройдуць моўчкі міма справы, якая пагражае матарыяльнай падставе быту беларускага насяленьня, і з соймавае трыбуны запратэстуюць *проці ўжываньня грошы, складаных і нашым народам, на шкоду беларускаму сялянству*.

## Без Ідэалу.

У працягу звыш сотні гадоў паняволены сваімі ворагамі, парэзаны на часьці Польскі народ вёў упорлівую, безспынную барацьбу за свой найвялікшы нацыянальны Ідэал:

— *За ўваскрасеньне вольнае, незалежкае і непадзельнае Бацькаўшчыны.*

Цэлыя пакаленьні расьлі і ўзгадовываліся, маючы усьцяж перад вачыма гэты Ідэал. І надыходзілі часіны, калі кайданы няволі ставаліся такімі цяжкімі, а імкненьне да зьдзейсьненьня Ідэалу—такім гарачым, што народ з аружжам у руках паўставаў проці чужацкае ўлады, і ідэалістычна настроенае грамадзянства складала крывавыя ахвяры на алтар *Волі*.

Ажно прыйшоў мамэнт, калі сусьветная ваенная катастрофа паваліла ў пыл учорашніх волатаў, і векавыя путы апалі з рук Польскага народу. Ідэал усіх лятуценьнікаў зьдзейсьніўся: Польшча сталася незалежнай дзяржавай.

Перад вачыма ідэалістычна настроенае, заўсёды найбольш гарачае моладзі Ідэал—яшчэ ўчора ня меўшы выразнага вобліку, бо быў такі далёкі,—стаўся *рэальнасьцяй*. Польская дзяржава—рэальны факт.

І той Ідэал, што вёў у працягу больш сотні гадоў лепшых сыноў Польскага народу на крывавае, хоць часта безнадзейнае, змаганьне з пераважаючымі сіламі ворагаў,—*перастаў істнаваць*.

Рэальнае жыцьцё Польшчы пасьля яе ўваскрасеньня—гэта штодзенная, часта грубая, далёкая ад усялякага ідэалізму, барацьба за істнаваньне, за панаваньне над другімі—слабейшымі—народамі, за кусок буднага хлеба. І мэты барацьбы, і способы яе—безканечна далёкія ад таго, чым цэлае сталецьце жыў Польскі народ...

У гэтай новай барацьбе, пазбаўленай усякіх ідэалістычных адзнак, адна—вялізарная большасьць—абмяжовываюць свае імкненьні асабістым дабрабытам, службовай кар‘ерай, высокім становішчам у грамадзянстве. Другія—зусім маленечкая меншасьць, маючы ў крыві сваей вытвораныя за час доўгае няволі элемэнты ідэалізму,—з агідай адварачываюцца ад грубай, бязыдэйнай рэальнасьці і—шукаюць новых ідэалаў: жыцьця без ідэалаў яны не разумеюць...

Бязспрэчна, яны знойдуць гэтыя ідэалы: Польскі народ мае ў сабе даволі духовае моцы, каб іх стварыць.

Але ня ўсім удаецца ўжо сяньня знайсьці Ідэал, вабючы і захопліваючы так, як вабіў той стары, зьдзейсьнены, ператвораны ў зусім неідэальную рэальнасьць.

„Kurjer Polski“ апавядае аб самагубстве двух такіх маладых польскіх лятуценьнікаў-ідэалістаў, што не здалелі жыць у грамадзянстве, пазбаўленым Ідэалу.

„Дзьве чулыя і мысьлячыя душы ў сваіх гутарках знайшлі толькі адзін выхад: сьмерць. Не жартавалі. Паступілі згодна з сваім настраеньнем. Не маглі жыць бяз веры ў жыцьцё, бяз ідэі, бяз выразнае мэты, якое ў сваіх прыяцельскіх дыялёгах не здалелі дашукацца.

„Паступак гэтых юнакоў зьяўляецца красамоўным дакумэнтам мамэнту, калі гэтая нястача ідэі адчуваецца ў розных слаёх грамадзянства. Многа аргумэнтаў знашлі яны дзеля пацьверджаньня сваей хворай думкі. Бачылі навакол сябе трыумф цынізму і панаваньне найгоршых інстынктаў. Ня мала павінен быў ім сказаць абраз палітычных адносін. Адраза і зьнеахвочаньне вынiклі з ўтраты веры ў чалавека“.

Польская газэта стараецца зьвярнуць на гэта ўвагу польскага грамадзянства. Ведама, *большасьць* на гэта ня зьверне ніякае ўвагі, ганяючыся за матарыяльным дабрабытам і выкінуўшы з душы зусім „лішні цяжар“ ідэйнасьці, ідэалістычных імкненьняў.

Але мы верым, што больш чулыя душы адчуюць трагэдыю двух маладых самагубцаў, зразумеюць, што *жыць бяз ідэі—запраўды немагчыма*, і мо‘ навучацца ўрэшце шанаваць ідэалы тых менш шчасьлівых народаў, якія апынуліся пад уладай Польшчы.

Мо‘ зразумеюць, што і *Беларускі народ ня можа жыць без свайго нацыянальнага Ідэалу*, што гэты Ідэал—частка нашае душы, наш ясны сьветач, які адзін толькі і робіць для нас магчымым падняволънае жыцьцё, як некалі Ідэал Незалежнае Бацькаўшчыны разсьвятляў цемру векавое няволі Польскага народу.

Хай-жа несьвядомая ахвяра жыцьця дзьвюх чулых, ідэалістычных польскіх душ не прападзе дарэмна—дзеля „нашай і вашай Волі“....

**І. М—ка.**

## Ці нарэшце выхад з тупіку?

Газэты прынясьлі вестку аб тым, што Францыя згодзілася нарэшце на ангельскую прапазіцыю аб скліканьні міжнароднай канфэрэнцыі ў справе адшкадаваньняў.

Можна лёгка сабе ўцяміць усю вялікую важнасьць гэтага факту, калі ўспомніць, да чаго давяла Эўропу гэтая нявырашаная, а пры цяперашнім францускім апэтыце—дык і зусім нявырашымая справа.

Мы нядаўна толькі чулі прамову прэзыдэнта Францускай Рэспублікі, які зусім шчыра сказаў, што „Францыя ніколі йшчэ ня чулася і ня была гэткай моцнай і шчасьлівай сваей вялікасьцю, як у сучасныя дні“...

У сучасныя дні—агульнага і паўсюднага крызісу Эўропы дадаймо мы, у дні поўнага развалу і раскладу ў яе цэнтры найвялікшага прамысловага арганізму ўсяго контынэнту, якія адбіваюцца фатальна ня толькі на наружна пабіўшых Нямеччыну і на палітычна вызваленых ад яе, але эканамічна зьвязаных з ёй васалаў Францыі, але і на самой Францыі... — у дні ўсё павялічываючайся прадваеннай аружнае варварызацыі ў цэнтры Эўропы прагрэсыўна даходзячае да таго, што мамэнт, падобны да 1-га жніўня 1914 г., можа наступіць у кожную мінуту...

У сучасныя дні, калі Эўропе зусім выразна пагражаець вайна і голад, „гаспадарствены муж“ і першы дастойнік Францыі,—на запраўдным вэрсальскім піры ў часе эўрапэйскай чумы — абвяшчае на ўвесь сьвет, што „Францыя ніколі йшчэ ня чулася

ляпей“, і—ніколі ня выпусьціць з рук таго, што захапіла і што дае ёй гэтае „пачуцьцё сілы“...

Прамова п. Мільерана, як часта бывае, б‘е шмат далей, як ён можа-б хацеў сам,—зьяўляецца ня толькі найбольш забойчым маральным ударам па Францыі, які толькі мог зрабіць яе люты вораг, але і клясычным выражэньнем таго паталёгічнага оптымізму, які, як ведаюць дактары, асаладжае апошнія дні хворага паралітыка, які можа сядзець у ахопленай агнём хаце і..—„чуць сябе так добра і моцна, як ніколі“.

І вось, як быццам Францыя пайшла на нешта падобнае да „ўступкі“,—згадзілася супольна з сваімі саюзьнікамі перагледзець у пэўнай частцы тое, што дагэтуль вырашала „на моцы Вэрсальскага Трактату“ яна сама—на свой „рыск і страх“...

---

Але-ж павялічываць „добрага сэнсу“ ў хворага, што „чуецца добра, як ніколі“, няма ніякіх падставаў.

Справа ў тым, што Англія прапанавала нешта зусім іншае, як тое, на што ўрэшце, пад уплывам цэлага раду фактараў, згадзілася Францыя...

Абапёршыся на ясна і рэзка выражаную волю апошняе „Усебрытанскае Канфэрэнцыі“,—з‘езду паўнамоцных прадстаўнікоў сваіх доміні‌яў, якія ўсе паасобна падпісалі Вэрсальскі Трактат, Англія запрапанавала, каб Францыя згадзілася на вялікую канфэрэнцыю паўнамоцных прадстаўнікоў галоўных дзяржаў, каб паставіць нарэшце пытаньне аб тым, што робіцца ў цэнтры Эўропы,—ўва ўсім аб‘ёме...

Але-ж, зразумела, Францыя на гэта не згадзілася.

Тады Англія, пакуль што, заручыўшыся падтрыманьнем Амэрыкі, высунула другі—меншы вар‘янт канфэрэнцыі — не паўнамоцных прадстаўнікоў дзяржаў, але толькі „экспэртаў“-рэчазнаўцаў, якія-б распазналі платнічыя магчымасьці Нямеччыны і запрапанавалі пэўныя „рады“, каб выйсьці з таго тупіку, у які зайшла Эўропа...

П. Пуанкарэ згодзіўся і гэтую згоду ангельская прэса называе „першаю ўступкай Францыі ад самай акупацыі Руры“... Левая прэса ў Францыі трыумфуе, што Пуанкарэ „вярнуўся да палітыкі Брыана“.

Ці гэта дапраўды „ўступка“ і якісь „зварот“ у палітыцы Пуанкарэ?

Паслухаем, як „супакоівае“ польскую грамадзянскую апінію ў гэтым сэнсе карэспандэнт „Gaz. Warsz.“ п. Смогоржэўскі.

„Гэтая згода нічога не зьмяняе, піша ён. Калі хто трымае ў руках Руру, дык можа сабе пазволіць на нейкія „штучныя“, фармальныя „posunięcia“.

Згода Францыі, піша ён, мае толькі мэтай „добра настроіць апінію Амэрыкі, але ў палітыцы экспляатацыі заставаў (захопленых абшараў) не зьмяняе нічога“...

Апошняя прамова п. Пуанкарэ ў Sapigny толькі пацьвярджае гэта: францускі прэм‘ер заявіў, што зусім ня мае намеру зьмяняць сваю палітыку адносна да Нямеччыны. Ён заявіў, што іменна для таго рашуча адкінуў паўнамоцную канфэрэнцыю ўрадаў, а калі згодзіўся на канфэрэнцыю ці прасьцей—камісію экспэртаў, дык толькі пад пэўнымі варункамі.

1) Камісія ня можа выходзіць з рамак Вэрсальскага Трактату, гэта значыць,—гэтая камісія экспэртаў павінна падпарадкавацца вядомай „камісіі адшкадаваньняў“, а гэта значыць, што ня новая камісія, але старая можа разважаць пытаньні аб адшкадаваньнях.

2) Рашэньні новай камісіі будуць мець толькі дарадчы голас і датыкацца толькі акрэсьленьня здольнасьці платнічае Нямеччыны.

3) Францыя ня згодзіцца ніколі на зьменшаньне агульнай сумы адшкадаваньняў і перад усім яе долі ў апошняй.

Гэтыя варункі як быццам зводзяць да нуля ўсю новую камісію. Трэба дапраўды „чуць сабе мацнейшым, як яшчэ ніколі“, каб, гледзячы на ўсё тое, што нарабіла ў Эўропе гэтая „палітыка эксплёатацыі“, заяўляць усяму сьвету, што няма ніякіх прычын зьмяняць гэтую палітыку!—і—ставіць такія варункі!

Але чаму-ж і дзеля чаго ўсё-ж такі гэтая новая канфэрэнцыя, якая, як-бы п. Пуанкарэ ні абкройваў яе паўнамоцтваў, прымушана будзе паставіць іменна на чаргу сваіх разважаньняў галоўнае пытаньне аб той „палітыцы эксплёатацыі заставаў“, якая, быццам падтрымліваючы літару Вэрсальскага Трактату, ў запраўднасьці ўжо прыняла па сутнасьці да поўнага зьмяненьня нават тэй раўнавагі паміж саюзьнікамі, якая была паложана ў аснову Вэрсальскае Эўропы.

Гэтая палітыка, паміма руйнаваньня эканамічнага і маральнага здароўя Эўропы, запраўды гэтак, пакуль што, палітычна ўсілівае Францыю, што яе саюзьнікі больш ня хочуць пераносіць гэтае гегеноміі... І цяпер, калі фактычна перастае істнаваць адзіная Нямеччына, калі Францыя фактычна бярэ сабе „Незалежную“... „Рэйнскую Рэспубліку“, дык ужо ніякімі фразамі ня можна скрыць таго галоўнага факту, што Францыя тэрыторыяльна павялічываецца так, як гэта зусім не прадугледжана тым самым Вэрсальскім Трактатам, якога Пуанкарэ лічыць сябе першым і найшчырэйшым абаронцам!...

І вось Англія, у згодзе з Амэрыкай, больш ня хоча цярпець гэтага...

Гэта адно, што зусім зьмяняе тое становішча рэчаў, якое было тады, калі Францыя зрабіла апошнюю „уступку“ і... захапіла Руру...

Другое, што высоўвае цяпер і падчырківае Амэрыка, гэта тое, што той аргумэнт „пасыўнага спраціўленьня“ Нямецкага ўраду, які аргумэнт Францыя высоўвала заўсёды, каб не дапускаць нікога да ўмешываньня ў сваю „палітыку“, цяпер ня істнуе: няма ня толькі спраціўленьня Нямеччыны, але няма ўжо і адзінай, аб‘яднанай, адказнай палітычна за подпіс на Вэрсальскім Трактаце Нямеччыны...

Гэтыя ўсё „новыя факты“, якія створаны францускай „палітыкай“, і будуць рабіць зусім новай, і ня можна сказаць, каб карыснай для Францыі, тыя „абставіны“, у якіх будзе адбывацца новая канфэрэнцыя...

Але гэта ўсё, так сказаць, ідзе на Францыю „згары“... Але-ж і „зьнізу“ ідзе „пад Францыю“ нешта новае, што таксама робіць зусім новымі, абставіны новай канфэрэнцыі...

Сам кар-т “Gaz. Warsz.“ абмовіўся неяк, што гэтае „sztuczne posunięcie“ зьяўляецца „ўступкай“, неяк зьвязанаю з „względami polityki wewnętrznej“...

Спрабуем расшыфраваць, што гэта значыць.

Францускі ўрад ў сваей палітыцы ў адносінах да Нямеччыны спачатку меў дачыненьне з яе варожым урадам. Пасьля Пуанкарэ, пазываючыся на пасыўнае спраціўленьне гэтага ўраду, адмовіўся мець з ім якіясь зносіны ў акупаваных абшарах і заявіў, што будзе мець дачыненьне толькі з мясцовымі ўладамі і з прыватнымі прамыслоўцамі абшараў—з яе буржуазіяй... каб праз яе эксплёатаваць усю масу працоўнага насяленьня краю, якая іменна творыць ўсё яго багацьце.

Але-ж цяпер, як мы ведаем, гэтая буржуазія сама ўжо наадрэз адмовілася мець дачыненьне з францускімі акупацыйнымі ўладамі, з францускім урадам і служыць у ролі гэтага пасярэдніка паміж імі і рабочым насяленьнем,—на карысьць францускай „палітыкі эксплёатацыі“...

У выніку стварылося такое палажэньне, якога правы і архі-буржуазны ўрад п. Пуанкарэ і яго „патрыятычнай еднасьці“ ня прадугледзеў, хаця сам яго стварыў: акупацыйным уладам і францускаму ўраду прыдзецца вясьці ўсю гэтую „эксплёатацыю“ рабочага насяленьня захопленых абшараў самім, ня маючы ўжо пачатковай вельмі карыснай ролі, калі яні маглі ўсю ненавісьць рабочых скіроўваць на нямецкі ўрад, ці на нямецкую буржуазію,..

Цяпер Пуанкарэ прыдзецца біць і рабаваць рурскіх рабочых беспасрэдна рукамі францускіх жаўнераў—гэткіх самых рабочых і сялян, як і тыя, што працуюць у акупаваных абшарах... Як гэта адбіваецца і йшчэ адаб‘ецца на ўнутраных узаемаадносінах сілаў у Францыі, лёгка сабе прадставіць... На гэта і ўказываюць ужо весткі з Францыі...

Сілаю рэчаў, а галоўным чынам, сілаю хворага ўпорства страціўшых розум і чалавечнасьць пераможцаў гатуюцца ня толькі новыя войны рэваншу—маючыя мэтай адбудову пабітых, паняволеных, парэзаных народаў, але Францыя яўна піхае Эўропу да ўсё больш выразнага стварэньня двох вялікіх, рыхтуючыхся да „апошняе барацьбы“ абозаў—буржуазнага і пралетарскага...

Францускі ўрад ня толькі разлажыў на гэтыя два лягеры Нямеччыну, але пачынае раскладаць ужо і Францыю.

І калі, як паведамляе нас віленскае „Słowo“, на заходняй граніцы нашага ўсходняга суседа стаяць у баявой гатоўнасьці дзьве трэці ваенных сілаў Саюзу С. Р. Р., дык вось—яшчэ адна зусім новая акалічнасьць—да тых агульных новых абставінаў, у якіх будзе адбывацца новая, фармальна бязсільна-дарадчая, але па сутнасьці вельмі важная „канфэрэнцыя экспэртаў“..

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

У зьвязку з запаведзяй міністра фінансаў аб зьменшэньні выдаткаў ваеннага міністэрства на 60 проц. ваенны міністар гэн. Шэптыцкі падаўся ў адстаўку. Ня гледзячы на падтрыманьне праз п. Вітаса гэтай просьбы аб адстаўцы ген. Шэптыцкага п. прэзыдэнт Вайцехоўскі адстаўкі яшчэ ня прыняў.

---

Забастоўка чыгуншчыкаў і паштавікоў у Польшчы павол‌і ліквідуецца, хаця яшчэ ня ўсюды служачыя распачалі поўнасьцю працу. Асабліва моцна трымаюцца чыгуншчыкі ў Кракаўскай і Львоўскай дырэкцыі. Урад стасуе да забастоўшчыкаў вострыя меры.

---

Палажэньне ў Лодзі, дзе бастуюць работнікі тэкстыльнай прамысловасьці, без перамен. Эндээры і хадэкі маніліся разьбіць забастоўку, але не дапялі мэты.

---

„Gazeta Warszawska“ паведамляе, што Рада міністраў ухваліла даць міністру ўнутраных спраў шырокія паўнамоцтвы ў справах зьвязаных з ліквідацыяй забастовак і утрыманьнем парадку ў Варшаве і ўсей дзяржаве.

---

Украінскія „хліборобы“, якія падтрымлівалі дасюль хьена-пястоўскі ўрад, выслалі да ўраду мэморыял, у якім дамагаюцца спаўненьня іх жаданьняў у працягу тыдня, пагражаючы ў праціўным выпадку перайці да апазіцыі.

## НЯМЕЧЧЫНА.

У Саксоніі пасьля доўгіх перагавораў дайшло да паразуменьня ў справе ўтварэньня новага ўраду, які будзе складацца толькі з адных сацыял-дэмакратаў. Урад Нямеччыны заявіў, што камісар цэнтральнага ўраду будзе адозваны, як толькі ўтворыцца новы ўрад.

Генарал Міллер зачыніў усе сацыялістычныя газэты ў Саксоніі.

---

Сацыял-дэмакратычная фракцыя нямецкага парлямэнту прыняла рэзалюцыю, што застаецца ў урадовай коаліцыі толькі пад гэткімі варункамі: 1) скасаваньне ваеннага вынятковага палажэньня, 2) прызнаньне ўрадам Рэспублікі паступкаў баварскага ўраду, як адкрытае пагвалчэньне нямецкай канстытуцыі, 3) утрыманьне ладу і парадку ў Саксоніі ёсьць справа паліцыі, а ня войска, 4) выдаленьне з рэйхсвэру прыхільнікаў фашыстаўскага руху.

---

Я. Пачопка.

# Як выбраць добрую малочную карову.

(Гл. „Воля Народу“ № 2).

Пазнаёміўшыся каротка з пародамі малочных кароў, пяройдзем далей да разгляду складу цела, які павінна мець кожная малочная карова, бо склад цела ёсьць першая галоўная прымета малочнасьці каровы. Прымета гэта стасуецца ня толькі да простых кароў, але таксама, наагул, да кожнай малочнай пароды кароў.

Усе пароды кароў дзеляцца на тры тыпы: малочны, мясны і рабочы. Да першага тыпу залічаюцца пароды, якія разводзяцца толькі, каб мець ад іх найболей малака. Да мясных—належаць каровы, якія даюць добрае мяса, скарэй атпасаваюцца. Да трэцяга, рабочага тыпу кароў, адходзяць пароды, якія маюць крэпкі склад цела і сілу, так што могуць замяніць сабой працу каня.

З памянёных намі вышэй парод кароў галяндэры і ангэльны ёсьць тып чыста малочны. Швіцы ёсьць ужо мешаніна малочнага тыпу з робочым.

Кожны з гэтых тыпаў маець свой склад цела, адпаведны таму для чаго гэты тып прадзначаны. Тутака мы будзем мець на ўвазе толькі малочны тып кароў, значыць кароў, якія разводзяцца ў гаспадарцы толькі для малака.

Перш чым вясьці гутарку аб тым, які павінен быць склад цела у кожнай малочнай каровы, лічым патрэбным сказаць колькі слоў аб тым, на што йшчэ трэба зварачаваць увагу (апроч складу цела) выбіраючы карову на малако ў тых выпадках, калі яе прыдзецца купляць на рынку.

Купляючы карову, перш-наперш трэба яе добра агледзець: ці няма можа ў гэтай каровы якога-небудзь браку або наскурнай хваробы, як напрыклад: гузоў, пухліны, нарываў, улогу і інш. Купляць карову з гэткімі знакамі не пажадана, лепей пашукаць зусім здаровую. Калі пры сьціплым аглядзе ніякіх павярховых хвароб і заган ня знайходзіцца, далей трэба пераканацца колькі ёй гадоў, або колькі цялят мела гэта карова, дзеля таго што ад гэтага залежыць як цана каровы, так і яе гаспадарчая вартасьць.

Добрая малочная карова можа даваць многа малака, маючы нават гадоў 15-20, але купляць карову найлепей не старэй 10 гадоў, або васьмёх ацяленьняў, дзеля таго што старыя каровы маюць ужо дрэнныя зубы, ды і тыя ня ўсе і ад гэтага надта худзеюць зімой, ня маючы магчымасьці жаваць грубы корм: салому, сена і мякіну. Для такіх старых кароў патрэбна ўжо даваць мягкі корм: бульбу, брагу, цеста і інш.

Каб пазнаць колькі карове гадоў ёсьць некалькі спосабаў. Найлепей пазнаць гады каровы па зубах, як пазнаюцца гады у каня. У каровы, таксама як і ў каня, зубы зьменіваюцца, зьядаюцца, ад чаго яны мяняюць свой выгляд. Пазнаваць гады па зубах у каровы нічым ня трудней чым у каня; спосаб гэты ня ўжываецца пакуль што на практыцы. Тутака мы застановімся на ім зусім коратка, радзячы таму, хто ім зацікавіцца, напрактыкавацца на зубах жывых кароў.

Гады ў кароў пазнаюцца па пярэдніх зубах. Карова, як ведама, маець восем пярэдніх зубоў. Цялёнак родзіцца з чатырма зубамі; на трэцім тыдні жыцьця ў яго вырастаюць йшчэ два зубы, а к канцу чацьвертага тыдня вырастаюць яшчэ два крайніх, так што ў гэты час цялёнак мае ўсе восем зубоў. Да трох месяцаў зубы застаюцца тыя самыя. Цераз чатыры месяцы кутнія зубы, якія знайшліся пазьней, вырастаюць і робяцца роўныя з другімі. Цераз пяць месяцаў пачынаюць зьядацца тыя зубы, што зьявіліся раней. Зьяданьне чашачак зубоў далей пераходзе на другія. Каля году сярэдняя пара зубоў робіцца роўнай (сьціраюцца ямачкі на чашачках зубоў і зьверху зубы робяцца гладкімі). К паўтара гадам зубы зьядаюцца ўсё болей і болей робяцца радзейшымі і карацейшымі. Паміж 1 год і 7 месяцаў і 1 год 10 месяцаў вываліваюцца сярэднія малочныя зубы і прарэзываюцца сталыя. У два гады веку карова маець ужо два сярэднія зубы сталыя. Цераз паўгода, а то трохі болей, вываліваецца йшчэ пара зубоў малочных і ў тры гады веку карова мае чатыры сярэдніх зубы сталыя і чатыры краініх (па два па бакох) йшчэ малочныя. У тры з палавінай гады вываліваецца йшчэ пара зубоў малочных і праразаюцца два сталых. К чатыром гадом жыцьця карова мае шэсьць сталых зубоў, застаецца йшчэ па краях па аднаму малочнаму зубу. У чатыры з палавінай гады вываліваюцца і апошнія крайнія малочныя зубы. У пяць гадоў веку ў каровы ўжо бываюць ўсе сталыя зубы.

Далей гады ў каровы пазнаюцца па зьяданьню зубоў. Сталыя зубы, як толькі яны вырастуць, зраўняюцца, дык зараз пачынаюць зьядацца. Па зьяданьню зубоў можна пазнаць да 10 гадоў, а пасьля ўжо адгадаць гады каровы па зубах досыць трудна. У каровы $3^1/_2$ гадоў пачынаюць зьядацца чашачкі кутніх зубоў; у $6^1/_2$ гадоў чашачкі на краях роўныя і г. д.

# З газэт.

### Пасьля перамен ў габінэце.

Палітычнае жыцьцё сучаснае Польшчы працякае пад знакам барацьбы за аздараўленьне фінансаў і польскае валюты. Але за адзіных „лекараў“ ад цяжкае хваробы польскага дзяржаўнага арганізму абабралася партыя, якая адзначаецца крайнім нацыяналізмам і рэакцыйнымі сацыяльнымі паглядамі, дзеля чаго палітыка пануючае партыі ня толькі ня можа аздаравіць фінансы гаспадарства, але, наадварот, толькі ўзмацовывае нездавольства тае трацiны насяленьня, што належыць да нацыянальных меншасьцяў, і шырокіх, многаміліённых масаў польскага працоўнага народу.

Ад гэтага, натуральна, фінансы гаспадарства церпяць вельмі сур'ёзна. І вось, ужо трэці раз адбываюцца зьмены ў складзе ўраду: кіраўнікі яго ніяк ня хочуць зразумець, што прычынай яго няўдач зьяўляюцца ня гэтулькі паадзінокія асобы, сколькі агульны кірунак палітыкі, і думаюць, што ўсё паправіцца, калі адных прадстаўнікоў „хіены“ заменяць другімі.

Дзеля гэтага пры апошніх пераменах у складзе ўраду міністэрскія партфэлі ўзялі найлепшыя „хіенскія“ сілы: Раман Дмоўскі, Ст. Грабскі, Корфанты, — пры чым уплывы партыі „Пяст“ зыйшлі на другі плян. Такім парадкам адказнасьць за дзяржаўную палітыку перайшла бадай выключна на „Хіену“.

Дужа цікавыя галасы польскае прэсы аб апошняй зьмене міністраў.

*Эндэцкія* газэты пераканаваны, што, калі-б і цяпер не ўдалося паправіць дзяржаўныя фінансы, дык іх наагул паправіць немагчыма. „Rzeczpospolita“ піша гэтак:

> Кожная вялікая будоўля вымагае вялікіх коштаў і крэдытаў, праца над аздараўленьнем патрэбуе як найпаўнейшага падтрыманьня з боку грамадзянства, вялізарнага высілку яго і непарушнага маральнага крэдыту. Склад ураду заслугуе на такі крэдыт у найвялікшай меры. Калі-б гэтым людзям не ўдалося павясьці вялікае дзела, дык ня ўдасца нікому іншаму.

Наадварот, *лібэральная апазіцыя* зусім інакш ацэнівае новых міністраў з эндэцкага абозу і нічога добрага не спадзяецца,—бо, як кажа „Kurjer Polski“, новыя міністры

> — гэта сынонімы найвастрэйшае ўнутранае барацьбы ў Польшчы, барацьбы як сацыяльнае, так і партыйнае.

*Левая апазіцыя* ў асобе сацыялістычнае часопісі „Robotnik“ рве на сабе шаты, бачучы ў уваходзе новых сябраў ураду „найвялікшае паніжэньне Польскае дзяржавы“. Вось, што чытаем у гэтай часопісі:

> Гэта—поўная капітуляцыя дзяржавы перад капіталам і абшарнікамі. Паны Корфанты і Хлаповскі ўвялі ў нашае гаспадарчае жыцьцё дзікі прынцып, што капіталісты і абшарнікі ня плацяць падаткаў, а даюць „ахвяры“. Зусім гэтак сама, як у сярэдніх вякох рабіла духавенства. Увялі адначасна йшчэ другі прынцып: што міністры ўваходзяць у габінэт на падставе сваіх асабістых сувязей з вядомымі групамі капіталістаў, забясьпечываючы „ахвяры“ апошніх. Пан Корфанты ўваходзіць да ўраду затым, што мае абяцаныя для скарбу ад горна-шлёнскае прамысловасьці 50 мільёнаў франкаў, п. Хлаповскі—затым, што інакш абшарнікі не далі-б 50 тысячаў вагонаў жыта...

І газэта зусім ня верыць у папраўку фінансаў такімі спосабамі, дзе „панская ласка“ кладзецца ў аснову буджэтных мяркаваньняў, хоць марка за апошнія дні крыху паднялася.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Агульны Сход Таварыства Беларускай Школы.** У чацьвер 1-га гэтага лістапада ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня адбыўся Агульны Сход Таварыства Беларускай Школы.

Сход адчыніў Старшыня Школьнай Рады пасол Б. Тарашкевіч. Старшынёю Сходу быў выбраны пасол П. Мятла, віцэ-старшынёй гр. Міхалевіч і сэкрэтаром гр. А. Канчэўскі. Прыняты гэткі парадак дня: 1) Даклад Старшыні Школьнай Рады. 2) Даклад скарбніка. 3) Даклад Рэвізыйнай Камісіі. 4) Агульная дыскусія. 5) Давыбары Сябраў Рады. 6) Бягучыя справы.

Старшыня Школьнай Рады пасол Б. Тарашкевіч зрабіў даклад аб дзейнасьці Таварыства, якую прышлося вясьці ў вельмі трудных варунках. Беларуская прасьветная праца спаткаецца з няпрыхільным становішчам польскіх уладаў, істнаваўшыя да гэтага часу беларускія школы зачыняюцца, гімназіі знаходзяцца ў дужа цяжкім матэрыяльным палажэньні і істнуюць толькі дзякуючы падтрыманьню Школьнае Рады. Адчуваецца недахват грашовых срэдстваў, якія складаюцца з сяброўскіх складак, галоўным чынам з адлічак беларускіх пасloў, дапамогі ад амэрыканскіх беларускіх арганізацыяў і ахвяраў прыватных асобаў.

Па прапазыцыі п. Б. Тарашкевіча аднагалосна прыймаецца рэзалюцыя з выражэньнем падзякі амэрыканскім братом, зарганізаваным у Нью-Іоркскім і Чыкагскім Беларускіх Камітэтах.

Пасьля дакладаў скарбніка і Рэвізыйнай Камісіі у агульнай дыскусіі выявілася асабліва цяжкае палажэньне правінцыяльных гімназіяў і беларускіх пачатковых школаў, якія мяйсцовыя ўлады ўсялякімі спосабамі стараюцца зьліквідаваць. Зьвернута была ўвага на тое, каб Школьная Рада ўвайшла ў больш цесную сувязь з правінцыяй, аб'яднала ўсе істнуючыя беларускія прасьветныя арганізацыі і выявіла больш дзейнасьці па арганізацыі беларускіх школаў на вёсках.

Пасьля дыскусіі аднагалосна прынята гэткая рэзалюцыя:

„Выслухаўшы справаздачу Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады, Агульны Сход Т-ва Беларускай Школы пастанавіў:

1) Справаздачу Ц. Б. Шк. Рады зацьвердзіць;

2) у далейшай працы Ц. Б. Шк. Рады даручыць ёй зьвярнуць асаблівую ўвагу на вясковыя пачатковыя беларускія школы, аказваючы ім калі не матэрыяльнае, дык прынамсі маральнае падтрыманьне;

3) бачучы галоўную прычыну цяжкага палажэньня беларускай школы ў урадовай палітыцы, якая імкнецца да ліквідацыі істнуючых і не дапускае тварэньня новых, ня гледзячы на дамаганьні насяленьня,—прасіць Беларускі Пасольскі Клюб больш энэргічна заняцца справай беларускай школы“.

Другая прынятая рэзалюцыя больш дэтальна намячае тыя заданьні, якія павінна зьдзейсьніць новая Школьная Рада.

З прычыны разьбежнасьці ў тлумачэньні параграфа статуту, які гаворыць аб папаўненьні Школьнай Рады новымі сябрамі, Школьная Рада ў поўным складзе падалася ў адстаўку і такім чынам адбыліся выбары усіх сябраў Школьнай і Наглядной Радаў.

Сябрамі школьнай Рады выбраны: паслы Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, Б. Тарашкевіч, кс. А. Станкевіч і М. Кахановіч і грам. Пяткевіч, Манкевіч, Сакалова, Багдановіч, Луцкевіч, Канчэўскі і Катовіч і кандыдатамі: Савіцкі, Сіняўскі, Красінскі і Гапановіч.

У Наглядную Раду выбраны: Пачопка, Лагіновіч, Лукашэвіч і Будзька і кандыдатамі Куніцкі і Туркевіч.

У пятніцу 2 лістапада адбылося першае паседжаньне нова-абранай Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады. Старшынёю выбраны пасол кс. А. Станкевіч, віцэ-старшынямі: пасол С. Рак-Міхайлоўскі і гр. Пяткевіч, сэкрэтарамі пасол П. Мятла і гр. А. Канчэўскі, скарбнікам гр. Г. Багдановіч і яго заступнікам пасол М. Кахановіч.

**Агульны Сход сябраў Беларускага Т-ва помачы ахвярам вайны.** У нядзелю 4-га гэтага лістапада а 4 гадзіне ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня адбудзецца Агульны Сход сябраў Беларускага Т-ва помачы ахвярам вайны.

**Ушанаваньне памяці „філяматаў“.** У нядзелю, 28 кастрычніка, польская школьная моладзь м. Вільні пад кіраўніцтвам прафэсароў віленскага польскага ўнівэрсытэту пастанавіла ўшанаваць памяць „філяматаў“, у тым ліку вялікага песьняра Зямлі нашае, Адама Міцкевіча, што сто гадоў таму назад былі арыштаваны расейскаю ўладаю і нейкі час сядзелі ў б. Базыльянскіх мурох (дзе цяпер Беларуская Гімназія).

Думка гэта была дужа добрая, толькі, на жаль, віленскія „культуртрэгеры“ выявілі пры гэтым усю сваю някультурнасьць і грубую непашану да чужое сьвятыні,—крыўдзячы гэтым памяць тых, каго маніліся ўшанаваць. Дружыны студэнтаў і вучняў з музыкай прышлі на сьвінтар сьв. Тройцы ў 11 гадз. раніцы—якраз у той час, калі ў царкве ішла служба Божа і было поўна народу. Заняўшы вакно колішняга кляштарнага клязэту (дзе праф. Клос праз нейкую дзікую фантазію хоча бачыць камеру Міцкевіча!), гаварылі стуль прамовы да сабранае моладзі, а пасьля пад вокнамі царквы сотні маладых грудзей з усяе моцы зацянялі старую застольную песеньку „філяматаў“: „Pijmy zdrowie Mickewicza“, заглушаючы набожныя сьпевы ў царкве і глыбока абураючы гэтым маліўшыхся праваслаўных.

Можна наперад сказаць, якімі славамі абурэньня закляйміў-бы Іоган Обст тых, хто падобную рэч учыніў-бы ў часе імшы пад вокнамі каталіцкага касьцёлу.

Няхай-жа гэткія словы прымуць па свайму адрасу тыя паны-прафэсары, што сваей бязтактнасьцяй (бо ня думаем, каб тут была сьвядомая злая воля!) абразілі рэлігійнае пачуцьцё праваслаўнае людносьці м. Вільні.

**Прасовыя справы.** Рэдактар зачыненай літоўскай газэты „Rytu Lietuvos“ атрымаў акт абвінавачаньня ў тым, што ў № 50 гэтай газэты зьмясьціў вестку аб Сьвянцянскім старасьце, які з караваю піў лікёр.

**Здарэньне з адвакатам Т. Врублеўскім.** Вядомага адваката п. Т. Врублеўскага спаткала нядаўна цікавае здарэньне. П. Т. Врублеўскі, варочаючыся з Варшавы, куды езьдзіў на Апэляцыйны Суд у справе беларускага пасла Барана, Маслоўскай і інш., быў затрыманы на ст. у Вільні праз паліцію, якая дамагалася ад яго пашпарту. Не памаглі ніякія тлумачэньні і дакумэнты Адвакацкай Рады і інш., паліцыя ўпарта дамагалася пашпарту. Трэба дадаць, што вядомы ў Вільні (ды й ня толькі ў Вільні) адвакат Т. Врублеўскі ёсьць чалавек стары і хворы, для якога гэткія здарэньні з паліцыяй зьяўляюцца зусім непажаданымі.

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Прыём у вячэрнюю школу.** Прафэсыянальныя саюзы пачалі выдаваць камандыроўкі сябрам саюзаў у агульна-асьветную вячэрнюю школу № 2. Пасылаюцца толькі тыя, хто мае ня менш 18 гадоў.

Пры школе ёсьць падрыхтоўчы аддзел для няпісьменных і малапісьменных.

**Частковая плата ў Бел. Дзярж. Унівэрсытэце.** З прычыны таго, што на вольныя мейсцы факультэту грамадзянскіх навук і пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту прымаліся студэнты без камандыровак прафэсыянальных саюзаў, на гэтых факультэтах будзе ўведзена частковая плата за навучаньне.

**Зьезд інспэктароў народнай асьветы.** 25 верасьня адбудзецца краёвы зьезд інспэктароў народнай асьветы.

Дэлегатам зьезду запрапанована прывезьці на зьезд справаздачы выкананай працы і плян на будучы вучэбны год.

### Ахвявы на прэсовы фонд.

Ад грамадзян Гарадзейскай гміны 2.380.000 п. м. ад грам. в. М. 1.380.000 п. м. ад гр. Мурзіковіча — 2.000.000 п. м. ад гр. N з Несьвіжа 1.000.000 п. м. ад гр. Ф—ча з Горадні 5.000.000 п. м.



***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня“ будзе і яго супрацоунікам.***

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын.** Вільня, Нямецкая 22.